Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№18(531) 26 студзеня 1993 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Первый "искусственный" ребенок есть!

**В пражском институте матери и ребенка из замороженного эмбриона нормально развивалась и родилась здоровая девочка. Сейчас ей уже больше десяти дней, рост девочки по имени Вера 54 см, вес — 3,5 кг.**

35-летняя мать новорожденной в течение одиннадцати лет не могла забеременеть. Ее яйцеклетка была искусственным путем оплодотворена спермой мужа. Появившийся эмбрион при температуре 196° по Цельсию в течение семи месяцев был законсервирован. После курса лечения матери он был ей имплантирован.

Как сообщил на пресс-конференции в Праге заведующий отделением института матери и ребенка Тонко Мардешич, речь идет о первом ребенке в Восточной Европе, появившемся на свет таким путем. В настоящее время в этом медицинском заведении более 600 пациенток ожидают искусственного оплодотворения.

### Пострадавшим — все, что можем

**В целях социальной защиты граждан, пострадавших от чернобыльской катастрофы, правительством республики установлены новые размеры единовременных компенсационных выплат.**

С 1 января 1993 года они производятся: инвалидам первой, второй и третьей групп соответственно в размерах 25, 18 и 15 минимальных зарплат. Семьи, потерявшие кормильца вследствие чернобыльской катастрофы, получат 25, а родители погибшего — 13 минимальных заработных плат.

Валерий ДРОЗДОВ.

### Трудно жить и с пистолетом

**Факт, случившийся не так давно, неординарен и относится к категории сенсационных — арестован сотрудник Минской областной прокуратуры, старший советник юстиции.**

Как сообщили в Прокуратуре Республики Беларусь, арестованному предъявляется обвинение во взяточничестве и незаконном хранении оружия (в квартире найдены 2 пистолета и мелкокалиберный карабин).

Алесь СИВЫЙ.

### Где бедному крестьянину бракосочетаться?

**Похоже, что в ближайшее время в деревне Черноручье Шкловского района демографического "взрыва" не будет.**

Дело в том, что на днях в местном сельсовете возник пожар, в результате которого практически пришел в негодность зал для бракосочетаний.

Николай ЛИТВИН.

### Ветром сдуло...

**Много хлопот доставил позавчера жителям деревни Гуленище Дрогичинского района внезапно налетевший ураган.**

Мощными порывами ветра повреждены дома сельчан, разрушена крыша коровника, под обломками которой погибли 4 теленка.

Леонид КОВАЛЕНКО.

### Белорусский рубль в Литве — предпоследний

Так он выглядит относительно литовского талона по курсу, который литовский Национальный банк установил на 20—26 января. Дешевле только украинский карбованец — 0,61 талона. Один белорусский рубль стоит 0,75 талона, российский — 0,89, латышский — 2,28, эстонская крона — 30,27, немецкая марка — 243, 27, доллар США — 399,28.

Андрей КОРСАК, собственный корреспондент БелаПАН в Вильнюсе.

### Вкратце

**28 января в Швейцарию на Всемирный экономический форум отправляется официальная делегация Республики Беларусь во главе с Председателем Верховного Совета Станиславом Шушкевичем.**

Во время пребывания в Швейцарии запланированы встречи Станислава Шушкевича с руководителями этого государства.

❑

**Первая на территории бывшего СССР негосударственная клиринговая палата учреждена руководителями 28 коммерческих банков из 12 стран СНГ и Балтии на межбанковской конференции, состоявшейся в Ялте 22—23 января.**

❑

**Круг городов — претендентов на право стать хозяином летней Олимпиады-2000 сузился: отозвал свою олимпийскую заявку Ташкент.**

Что же касается Олимпиады-2000, хозяин которой будет избран на сессии Международного олимпийского комитета в Монте-Карло 23 сентября нынешнего года, то за право принять ее поспорят Берлин, Сидней, Пекин, Стамбул, Милан и Манчестер.

❑

**"Идей достаточно, проблемы с бизнес-планами" — так оценила американская сторона состояние деловых отношений с белорусскими предпринимателями по итогам подготовительного совещания третьей белорусско-американской конференции "Бизнес-93".**

❑

**"Победителей на апрельском референдуме не будет", — считает глава российского парламента Руслан Хасбулатов.**

Выступая вчера на заседании Президиума Верховного Совета РФ, он высказал мнение, что результаты референдума при всех вариантах будут иметь однозначно отрицательные последствия.

Руслан Хасбулатов заявил также, что в нынешних условиях недопустима и начинающаяся кампания за повсеместное проведение выборов глав администраций.

❑

**Модифицированные банковские билеты образца 1993 года достоинством в 100, 200, 500, 1000 и 5000 рублей будут выпущены в России.**

Такое решение принято на вчерашнем заседании Президиума Верховного Совета Российской Федерации. Эта мера, введенная по предложению Центрального банка России, предпринимается в целях усиления защищенности российской национальной валюты.

(По сообщениям ИТАР—ТАСС, Белинформ.)

КАК ТОЛЬКО СТАВИТСЯ КАКОЙ-НИБУДЬ ВОПРОС НА ГОЛОСОВАНИЕ, ОТКУДА НИ ВОЗЬМИСЬ ПОЯВЛЯЮТСЯ МОИ ИЗБИРАТЕЛИ...

СКОРО БУДУ

Рисунок Олега ПОПОВА

### Спорт-экспресс

Баскетболисты Минского РТИ проиграли у себя на площадке каунасскому "Жальгирису" — 89:94.

❑

24 и 25 января утром из Минска в Москву отправились две футбольные делегации — национальная сборная Беларуси и минское "Динамо". Сборная в Москве долго не задержится и 25 января вечером вылетит в столицу Перу Лиму, начальный пункт турне по Южной Америке. Минское "Динамо" же пробудет в Москве целую неделю, принимая участие в Кубке чемпионов стран СНГ, который пройдет с 25 по 31 января. Приводим расписание игр "Динамо" в этом турнире:

25 января. "Динамо"— "Омендинмен" (Ереван)

26 января. "Динамо" — "Норма" (Таллинн)

27 января. "Динамо" — "Регар" (Таджикистан).

29 января состоятся полуфинальные матчи.

Финал — 31 января.

### Наступит ли "сладкая" жизнь?

**Гомельскому оптово-розничному торговому союзу, созданному на базе бывшего управления торговли облисполкома, удалось-таки обуздать сахарную "лихорадку".**

При рыночном фонде на первый квартал 6845 тонн сахара в область поступило 8800 тонн. Облисполком через прессу призвал гомельчан досрочно отоварить февральские и мартовские талоны на сахар.

Анатолий ЛИПСКИЙ.

### "Отцы" поняли матерей

**Полное понимание у "отцов" Витебской области нашли матери, потерявшие своих детей в армии.**

Группе женщин, которые пришли в Витебский облисполком с пакетом требований, была обещана всемерная помощь. Слово свое администрация сдержала. Опередив парламентариев республики, она приняла решение о льготах семьям военнослужащих, погибших в армии в мирное время, в том числе павших жертвой "дедовщины", умерших при недостаточно выясненных обстоятельствах. Документ предусматривает выделение материальной помощи, улучшение жилищных и бытовых условий, 50-процентную скидку при оплате коммунальных услуг и другие "послабления".

Сергей БУТКЕВИЧ.

### Вчера услышали...

**Министр нефтяной промышленности Кувейта заявил, что на предстоящем 13 февраля совещании министров ОПЕК — организации стран — экспортеров нефти он предложит своим коллегам сократить объем добычи "черного золота".**

Предложение будет внесено с целью резко повысить мировые цены на нефть, которые с октября прошлого года упали на 20 процентов.

(По сообщению радиостанции "Свобода".)

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## У вырашэнні цяжкіх эканамічных пытанняў парламент вырашыў галаву ў пясок не хаваць...

Павел СТАСЕВІЧ

Панядзелак, як вядома, — дзень цяжкі. Парламентарыям гэтую жыццёвую ісціну ўчора абвергнуць не ўдалося.

Сумнаватай была ранішняя размінка ў "Розным" — праблем у паўсядзённым жыцці рэспублікі набралася мора, і народныя дэпутаты выносілі іх на агульны разгляд.

Гэта, напрыклад, пытанні аб удасканаленні механізму пераразліку пенсій, цяжкасці з прыгараднымі чыгуначнымі перавозкамі, безупынны алкагольны наступ, якому ніхто зараз не ставіць сур'ёзную заслону, па-ранейшаму абыякавае стаўленне да беларускай мовы і г.д.

Затым на трыбуну сесіі быў запрошаны старшыня Дзяржэканамплана С.Лінг, які адказаў на многія дэпутацкія запыты, што датычылі эканамічных пытанняў.

Наконт чыгуначнага транспарту ён, у прыватнасці, паведаміў, што для яго падтрымкі ствараюцца адпаведныя інвестыцыйныя фонды. Ёсць ва ўрада і праграма па структурнай перабудове прамысловасці, яна абавязкова будзе даведзена да шырокіх колаў грамадскасці. Наконт забеспячэння інвалідаў спецтранспартам: ёсць вялікія праблемы, калі "Запарожцы" ў рэспубліку не будуць паступаць, то маецца намер выплачваць людзям адпаведную грашовую кампенсацыю. Пачала працаваць і праграма эканоміі прыродных рэсурсаў рэспублікі, робяцца захады, каб паветра і вада станавіліся чысцейшымі.

Больш падрабязна спыніўся С.Лінг на пытанні аб зняцці дзяржаўных датацый сельгасвытворцам і перапрацоўшчыкам гэтай прадукцыі і передачы грошай непасрэдна спажыўцам — менавіта такую прапанову ўносілі некаторыя дэпутаты. Сэнс у гэтым, адзначыў выступаючы, ёсць, але рэзкіх крокаў тут рабіць нельга — цэны "падскочаць" імгненна, людзі гэтага не зразумеюць. С.Лінг прапанаваў іншы, "змешаны" варыянт, які, на яго погляд, больш разумны ў цяперашні час.

Затым на трыбуну сесіі падняўся старшыня Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Р.Унучка, які прадстаўляў праект пастановы Вярхоўнага Савета "Аб эканамічнай праграме ўрада Рэспублікі Беларусь на 1993 год і асноўных напрамках развіцця народнай гаспадаркі на перспектыву".

Ужо ў самым пачатку абмеркавання ад некаторых дэпутатаў паступіла прапанова — праграму ўрада не "адабраць", а толькі "прыняць да ведама". Гэта быў, як кажуць, вельмі прынцыповы момант: ісці з урадам разам ці ўзяць на ўзбраенне расійскі варыянт, калі заканадаўчая і выканаўчая ўлады, як кажуць, "на нажах".

— Давайце не будзем хаваць галаву ў пясок, а прымаць адказнасць за свае рашэнні, — прапанаваў нарэшце Р.Унучка. І гэтая думка пры галасаванні была падтрымана пераважнай большасцю дэпутатаў. Значыць, беларускі парламент бярэ на сябе адказнасць не толькі за прыняцце законаў па эканамічных пытаннях, але і па іх выкананню — сумесна з урадам.

Пасля гэтага прыйшла чарга праекта Закона "Аб дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1993 год". Р.Унучка прапанаваў праект пастановы па ім прыняць за аснову, а потым прыступіць да паартыкульнага абмеркавання.

Але апошняга прыйшлося чакаць доўга — эмацыянальная хваля "накрыла" парламенцкую залу мноствам пытанняў. Яно і зразумела — дэпутаты хацелі ведаць усё пра тыя грошы, якія дзяржава мае і якія будзе траціць.

— Бюджэт — гэта баланс, — падкрэсліў А.Лукашэнка. — Каб некаму даць, трэба ў некага забраць...

Многія пытанні "зняў" сваім выступленнем першы намеснік Старшыні Савета Міністраў М.Мясніковіч. Пачалося паартыкульнае абмеркаванне бюджэту.

Дзяржаўныя грошы — не тая справа, дзе можна абысціся рамантычнымі пажаданнямі і пустымі абяцанкамі. Тут патрэбны веды, кампетэнтнасць, абачлівасць. На жаль, гэтага ў ходзе абмеркавання, на маю думку, не ўсім заўсёды хапала...

*Слова дэпутатам*

## Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ, намеснік старшыні Цэнтральнай рады БСДГ:

— Вярхоўны Савет не мае права ставіць інтарэсы асобных груп людзей вышэй, чым інтарэсы ўсяго народа, інтарэсы дзяржавы.

**А што адбываецца на самай справе?**

Дэпутаты-аграрнікі гарой стаяць за так званую калектыўную ўласнасць, змагаюцца супраць права прыватнай уласнасці на зямлю, супраць самастойных гаспадароў-фермераў. Іх актыўна падтрымліваюць многія дэпутаты — старшыні выканкамаў мясцовых Саветаў. Дэпутаты-прамыслоўцы адстойваюць інтарэсы сваіх прадпрыемстваў і мала цікавяцца праблемамі навукі, адукацыі, культуры, аховы здароўя. Як кажуць, кожны цягне коўдру на сябе. Асабліва яскрава гэта праявілася пры абмеркаванні законаў аб падатках. Дэпутаты амаль не ўжывалі слова "бюджэт". Іх больш цікавілі льготы. Прычым толькі ў той сферы дзейнасці, якой яны самі займаюцца.

Непакоіць і тое, што большасць прынятых законаў не маюць дзейснага механізму іх рэалізацыі. Ні законы, ні пастановы ўрада па іх рэалізацыі не прадугледжваюць мер адказнасці за невыкананне патрабаванняў закона. Адсутнічаюць дзейсны кантроль з боку дзяржавы за выкананнем законаў і непазбежнасць пакарання за парушэнне законаў. Прыкладаў шмат. Адзін з іх — невыкананне Вярхоўным Саветам уласнапрынятага Закона "Аб рэферэндуме".

**Дзе ж выйсце?**

Па-першае, парламент павінен быць пастаянна працуючым. Дэпутаты павінны працаваць на прафесійнай аснове.

Вопыт работы на прафесійнай аснове многіх дэпутатаў — былых прамыслоўцаў, аграрнікаў, навукоўцаў і іншых — пацвярджае гэта. Гэтыя дэпутаты адрозніваюцца ад сваіх былых калег большайаб'ектыўнасцю меркаванняў. У іх прапановах гучыць больш заклапочанасці аб дзяржаўных інтарэсах.

Па-другое, трэба павышаць культуру парламенцкай працэдуры, палітычных дыскусій. Трэба стварыць спрыяльныя ўмовы для забеспячэння эфектыўнай работы парламенцкіх фракцый.

Нарэшце, трэба тэрмінова прыняць законы "Аб дзяржаўнай службе", "Аб барацьбе з карупцыяй". Трэба павысіць эфектыўнасць дзейнасці праваахоўных органаў, органаў дзяржаўнага кантролю.

Дэмакратыя і рынак — гэта не хаос, а стан грамадства, у якім дзяржава не толькі гарантуе свабоду рэгламентуемай законамі эканамічнай і іншай дзейнасці, але і непазбежна карае тых, хто парушае гэтыя законы ў карыслівых (уласных) мэтах. Такія гарантыі ў стане забяспечыць толькі самастойная дэмакратычная і сацыяльная дзяржава.

P.S. Актуальнасць меркаванняў народнага дэпутата М. Крыжаноўскага, які загадзя даў інтэрв'ю газеце, пацвердзіла і ўчарашняя дыскусія на ранішнім пасяджэнні Вярхоўнага Савета.

*Нам стала вядома*

### Здавайце кроў. За цаной не пастаім

**Чалавечая кроў у экстранных выпадках для дапамогі пацярпеўшым пакуль яшчэ незамянімая. Але жадаючых стаць донарамі ў сувязі з інфляцыяй і мізэрнай кампенсацыяй становіцца ўсё менш і менш...**

Гэтае пытанне вырашалася на ўрадавым узроўні. Цяпер платным донарам за 1 літр крыві ў дзень яе здачы будзе выплачвацца 60 працэнтаў мінімальнай заработнай платы. Людзі, якія здаюць кроў бязвыплатна, замест набору прадуктаў харчавання могуць зараз атрымаць грашовую кампенсацыю ў размеры 7,5 працэнта, а платныя донары — 5 працэнтаў ад таго ж мінімуму зарплаты.

Фёдар ДАЗОРАЎ.

### А квасок-то шлаки выводит!

**Не только технологию, но и оборудование для производства напитка типа хлебного кваса решил передать могилевчанам известный у себя на родине немецкий ученый, руководитель фирмы "Бродтринк" Вильгельм Канэ.**

Причем бесплатно. Такой подарок В.Канэ со своей женой Кристель решили сделать, чтобы несколько облегчить страдания могилевчан от заболеваний, вызванных последствиями аварии на Чернобыльской АЭС, сложной экологической обстановкой в городе. Напиток, приготовленный по предлагаемой технологии, способен выводить из организма человека вредные шлаки, в том числе и радиоактивные.

Николай КОМЛЕВ.

*Крыўдна!*

### Сімволіка Бельгіі? Калі ласка. А Беларусі?..

**У нашым горадзе ёсць у продажы значкі, на якіх адлюстраваны сцягі Бельгіі, Ірландыі, іншых дзяржаў. Няма толькі з бел-чырвона-белым сцягам, а таксама з выявамі іншых нацыянальных сімвалаў нашай маладой суверэннай дзяржавы.**

Вось і пытаюся ў адпаведных службовых асоб: няўжо гэта такая невырашальная праблема для рэспублікі? Няўжо мы можам зрабіць бел-чырвона-белы значок толькі для дэпутатаў? А як жа прапаганда нашай дзяржаўнасці сярод суайчыннікаў і ўсіх тых, хто наведвае нашу краіну?

Андрэй КАЗЕКА.

*Прэс-канферэнцыя*

### Станіслаў ШУШКЕВІЧ: "Сустрэча была як ніколі прадуктыўнай"

Адкрываючы прэс-канферэнцыю, прысвечаную вынікам сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў СНД, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч заявіў, што яна была як ніколі аднадушнай і прадуктыўнай. Кіраўнікі 10 краін разгледзелі 30 пытанняў і па кожнаму з іх прынялі станоўчыя рашэнні.

Барыс Ельцын, Леанід Краўчук, Нурсултан Назарбаеў, а таксама кіраўнікі іншых дзяржаў адказалі на мноства пытанняў журналістаў. Галоўнае ў іх адказах гучала так: без СНД на прасторах былога СССР сёння, напэўна, было б горш. Садружнасць, здаецца, мінула цяжкасці, характэрныя для любога "нованароджанага". Цяпер трэба ісці наперад, аддаючы прыярытэт эканамічнаму супрацоўніцтву.

*Глядя из Минска*

## Ивану Коротчене безработица не угрожает...

Чудны дела твои, Господи! В самом изощренном сне нельзя было и предположить, что в 30 метрах от здания Комитета госбезопасности будет когда-нибудь реять на студеном январском ветерке черно-красный бандеровский флаг... Пожилой пан, державший флаг, прибыл, оказывается, из Львова для того, чтобы предостеречь президента Украины Кравчука от любых шагов на сближение с "москалями". А разделенная узенькой асфальтовой дорожкой, возле памятника Дзержинскому, волновалась толпа сверстников бывшего "проводника" из Карпат, такие же пожилые люди, видящие выход лишь в возвращении к Союзу ССР. Между этими крайностями — проспект Ф.Скорины, заполненный озабоченными и хмурыми людьми, которые равнодушно проходят мимо и, кажется, менее всего интересуются цветом знамен и содержанием плакатов.

В штаб-квартире СНГ мне удалось взять интервью почти у всех участников встречи на высшем уровне. Кроме Ельцина. Борис Николаевич так плотно окружен своими многочисленными советниками и охраной, что "пробиться" к нему не было решительно никакой возможности. Зато другие руководители были на редкость открыты и готовы для разговоров. Приведя в "порядок" многочисленные и довольно-таки разрозненные впечатления, хочу поделиться некоторыми главными выводами от интервью. Мне кажется, что по основным, концептуальным вопросам позиция Беларуси все более сближается с российской, что вызывает определенную нервозность у наших украинских друзей. Но если Кравчук нарочито не замечает этого, то премьер Кучма не видит здесь никакого "сепаратизма" и считает, что это нормальный, прагматичный путь вперед политиков из Минска. Кучма выразил сожаление по поводу того, что президент Украины вынужден отдавать слишком значительную дань политическому давлению со стороны национально-демократических сил, не желающих "поступиться принципами" даже перед лицом наступающего тотального экономического кризиса. Вице-премьер России Шохин отметил, с одной стороны, готовность российского правительства еще более гибко и доброжелательно реагировать на удовлетворение запросов экономики и сельского хозяйства Беларуси, но при этом намекнул и на то, что "терпение" влиятельных российских сил на дальнейшее "дистанциирование" соседей не беспредельно... Назарбаев, как всегда на публике, предстает уверенным в себе и знающим ответы на все вопросы. Это, конечно, импонирует. Однако на вопросы, касающиеся необычайной, даже на фоне страшного обнищания СНГ, дороговизны в Алма-Ате, Целинограде и Джамбуле, Назарбаев отвечает весьма уклончиво, и сразу чувствуется, что он бы с удовольствием перешел на иные, более абстрактные темы. Что ж, понятно: давать советы всегда легче, нежели претворять их в жизнь самому. Но пока среди лидеров нового среднеазиатского союза Назарбаев пользуется подчеркнутым уважением. Хотя, как известно, Восток — дело тонкое, и очень трудно за изящной вязью слов, мягкими улыбками и горячим пожиманием рук уловить, что же думают на самом деле и что собираются предпринять Каримов и Акаев? Во всяком случае, когда разговор заходит о Беларуси, то все они говорят в один голос, что любят нас пуще прежнего. Дай-то Бог. За нами, как говорится, тем более "не заржавеет".

Итак, Украина не подписала Устав СНГ, не мотивировав свой отказ никакими серьезными аргументами, кроме того, что не желает создавать некие "надгосударственные" структуры. Очевидно, войдя в положение Кравчука, который не может себе позволить политического харакири, отцы-учредители СНГ оставили для него и других желающих открытую к подписанию дверь. Это сразу же сгладило возможные занозы и окрасило встречу в теплые и дружественные тона. Но более всех ликовал руководитель Национального банка России Геращенко. Что Устав?! В принципе, одна из многочисленных бумаг, которых уже немало родилось за год существования СНГ и о которых порой мало кто знает. А вот общий банк, в котором доминирует Россия, — это будет инструмент куда более крепкий, нежели любой устав. Возможно, не все руководители, "зациклившиеся" на политической стороне вопроса, отдали должное победе Геращенко. Но смею утверждать, что те, кто стремился не только сблизить страны СНГ, но и крепко "связать" их, может не скрывать радости. Кстати, Геращенко разоткровенничался и с гордостью сказал, что он тоже белорус из-под Климовичей и что фамилия его батьков "Гарашчанка", что это какой-то сельский писарь в метрике попутал, а коль так, то он всегда будет помогать своим "браткам"...

Как бы то ни было, сенсации, в ожидании которой в Минск слетелись около 400 журналистов, не произошло, СНГ не распалось, а, наоборот, несколько (пусть даже чисто внешне) окрепло! Правда, руководители стран наиболее жгучие проблемы все же отложили на "потом", справедливо полагая, что кое-какие из них, возможно, рассосутся сами по себе, что вообще-то очень характерно для нашей, удивительно привлекательной для всевозможных парадоксов местности. Вот только два самых свеженьких, почерпнутых с воскресного телеэкрана, из одной и той же информационной программы. Вот диктор сообщает о том, что новый министр сельского хозяйства США выразил готовность и в наступающем году помочь русскому народу американским хлебушком и "оттянуть" выплату грандиозных долгов, и тут же некий молодой российский гражданин, который едет воевать в Ирак, гордо заверяет в Шереметьево соотечественников, что он как снайпер "может снять любого американца в глаз за пять километров". Ну, каков удалец! Если бы так же лихо мог и ячмень молотить — цены бы не было!

Павел ЯКУБОВИЧ, политический обозреватель "Народной газеты".

